Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага № 50 грошы.




Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Каралеўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на паўгоду — 2 зл. 50 гр., на 3 мес. — 1 зл. 50 гр.

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

## ЗЬМЕСТ:

# Ад выдавецтва.

Прайшло каля 5 месяцаў ад выхаду папярэдняга нумару нашае часопісі.

Прышлося нам за гэты час чуць ад некаторых з нашых падпішчыкаў, якія аплацілі падпіску хто за поў года, а хто нават і за цэлы год, зусім слушныя нараканьні і незадаваленьне з прычыны спыненьня выхаду часопісі. Большасьць аднак захавала поўнае спакойства, бо добра зразумела, што прычынай спыненьня зьяўляецца не злая воля выдавецтва, а звычайны недахоп матэрыяльных сродкаў, — гэта знаная ўсім нам беларуская хвароба. Перапрашаем за здарыўшаеся ўсіх нашых падпішчыкаў і заяўляем, што прычына перарыву ў выхадзе „Беларускай Борці" крыецца ў саміх яе чытачах, з якіх ня ўсе былі акуратныя ў справе аплаты падпіскі.

Выдавецтва рабіла ўсё, што магло, каб толькі часопісь магла выхадзіць рэгулярна, але нажаль змушана была спыніць яе выхад. Бяз грошаў нічога зрабіць нельга.

Выпускаючы ў сьвет гэты нумар дзякуючы ахвярнасьці беларускага грамадзянства, мы зварочваемся да ўсіх нашых чытачоў, да Беларускага Грамадзянства з просьбай падтрымаць нас.

Мы ня вымагаем ніякіх ахвяраў, мы просім толькі прыслаць нам падпіску.

Парушаючы на бачынах „Беларускай Борці" пытаньня, звязаныя з іншымі галінамі селянскае гаспадаркі, мы маем надзею, што лік нашых падпісчыкаў павялічыцца і „Беларуская Борць" зможа выходзіць акуратна без перабояў.

Адначасна на гэтым мейсцы складаем шчырую падзяку ўсім сваім ахвярадаўцам якія прычыніліся да хутчэйшага выхаду „Бел. Борці".



Беларуская Борць

Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

№ 6 (11) ЛІСТАПАД 1935 г. ГОД II.

# Земляробства і крызыс.

У працягу апошніх шасьці гадоў нашае селянства, як і селянства іншых народаў, зьнясільваецца пад цяжарамі, якія зваліліся на яго у зьвязку з сусьветным гаспадарчым крызысам.

Ня буду зараз гаварыць аб прычынах, выклікаўшых гэты крызыс, і аб яго сутнасьці. Да гэтага пытаньня зьвярнуся іншым разам або ў іншым мейсцы. Зараз пастараюся толькі ў кароткіх рысах ахарактэрызаваць палажэньне селянства ў зьвязку з гэтым крызысам і паказаць на некаторыя з шляхоў, ідучы якімі можна было-б хоць крыху палепшыць сваю долю.

Сучасны крызыс вельмі балюча адчуваецца земляробствам, як ніводзін з папярэдніх.

Селянін, які сам, ува ўласнай гаспадарцы, вытварае сабе ўсё патрэбнае для спажыцьця і існаваньня, звычайна не адчуваў тых няшчасьцяў, якія перажывалі падчас гаспадарчых крызысаў працоўныя места.

Зус м інакш стаіць справа цяпер. Сучасны крызыс зачапіў ня толькі фабрычную прамысловасьць. Ён выклікаў адначасна і катастрафальнае падзеньне цэнаў на прадукты земляробства і гэта ў той час, калі земляробскія гаспадаркі стогнуць ад непасільных цяжараў, як падатковых так і розных іншых, і селянін змушаны дзеля гэтага прадаваць за бязцэн прадукты сваей працы, адмаўляючы пры гэтым шмат у чым сабе — абы тольк і вывязацца з сваіх грашавых забавязаньняў і не дапусьціць да разбурэньня свае гаспадаркі.

І вось гэтакае абніжэньне цэнаў на прадукты земляробства, пры адначасным утрыманьні высокіх цэнаў на прадукты фабрычнае прамысловасьці, асабліва прамысловасьці скартэлізаванае і манапольнае, як напр. жалеза, газа, сярнічкі, соль, цукер і г. д., — пры безпрацоўі сярод работнікаў і інтэлігэнцыі, гэтых галоўных спажыўцоў прадуктаў земляробства, ды яшчэ высокія дзяржаўныя і самаўрадавыя падаткі і проценты і раты ад пазык, якія лёгка і без разважаньня браліся селянствам у паваенныя гады, — вось тыя дзейнікі, якія стварылі зачараванае кола, з якога ня можа знайсьці выхаду селянін-земляроб.

У нармальных варунках выхадам з падобнага палажэньня было-б павялічэньне працаздольнасьці і палепшаньне спосабаў гаспадараваньня. Улажыўшы больш працы, палепшыўшы глебу і павялічыўшы яе ўраджайнасьць, земляроб хутка і лёгка мог-бы папрaвіць свой быт.

Толькі гэтыя спосабы нельга застасаваць зараз, у сучасных ненармальных варунках гаспадарчага жыцьця.

Пачаўшаеся пасьля сусьветнай вайны абніжэньне высокіх ваенных цэнаў на ўсе прадукты, а ў тым ліку і прадукты земляробскае га-

спадаркі, адразу стала пагражаць гаспадарчым крызысам. Пачалося шуканьне выхаду, ратунку; пачаліся розныя нарады, конфэрэнцыі, як у паасобных дзяржавах, так і міжнародныя. Але ніводная з іх выхаду гэтага не знайшла.

Адбытая ў 1927 годзе ў Жэнэве Міжнародная Гаспадарчая Конфэрэнцыя запрапанавала земляробству павялічыць прадукцыю, што, па думцы аўтараў гэтае рэзалюцыі, павінна было-б папоўніць тыя дэфіцыты, якія паўставалі ў земляробстве ў зьвязку з абніжэньнем цэнаў. Але ўжо і тады больш цьвярозыя і празорлівыя палітыкі-эканамісты асьцярагалі ад гэтае меры, прадбачучы ў павялічэньні прадукцыі земляробства няміпучае паўстаньне надпрадукцыі, што ня толькі не палепшала палажэньня, а наадварот яшчэ больш яго завастрала Выходзілі яны, і зусім слушна, з таго, што нельга павялічываць прадукцыі артыкулаў спажыцьця ў той час, калі даходы працоўных слаёў насельніцтва, гэтых галоўных спажыўцоў, пачынаюць стала і няўхільна абніжацца. Гэтакая мера павінна была няміпуча выклікаць парушэньне раўнавагі паміж прадукцыяй і спажыцьцём, што ў хуткім часе і настала.

Сталася тое, што галоўныя артыкулы земляробскае прамысловасьці, г. зн. прадукты зернавыя, перасталі знаходзіць сабе купцоў, як на ўнутраных краёвых, так і на заграпічных рынках, бо гэтых прадуктаў было больш чым было запатрабаваньня; цэны на іх пачалі дзеля гэтага абніжацца і хутка дайшло да таго, што земляроб мог атрымаць за свой тавар меньш чым яму самаму каштавала выпрадукаваць яго. Прадажа прадуктаў земляробства перастала пакрываць кошты прадукцыі, — яна не магла задаволіць вельмі скромных патрэбаў селянскае сям'і, — яна не магла даць селяніну магчымасьці набываць тое з фабрычнае прамысловасьці, бяз чаго ён ня мог абыходзіцца, як у сваёй працы, так і ў асабістым жыцьці.

Абнізілася пакупная здольнасьць селянства, а гэта яшчэ больш завастрыла крызыс у фабрычнай прамысловасьці, яшчэ больш павялічыла безрабоцьце сярод працоўных гораду.

Вось гэтае безрабоцьце з яго-ным спадарожнікам — сталым далейшым абніжэньнем заробкавай платы—не варожыць селянству на палепшаньне сытуацыі ў бліжэйшым часе.

Адным словам стварылася палажэньне, што прадукцыя зернавых хлябоў, зрабілася непаплатнай, а земляроб дзеля гэтага пастаўлены перад пытаньнем, што-ж рабіць каб ня згінуць зусім? Ці цярпліва чакаць пакуль варункі жыцьця зьменяцца на лепшае, а да таго часу недаядаць і распрадаваць пакрысе сваю і так бедную гаспадарку, ці шукаць якіх небудзь іншых выхадаў?

Адказ на гэтае пытаньне можа быць толькі адзін. Нельга быць нядзейнымі, нельга чакаць пакуль зьменяцца варункі жыцьця, або хтосьці прыдзе з дапамогай. Лепшую долю трэба шукаць і здабываць сабе самім. Жыцьцё ёсьць барацьба, якая, асабліва падчас вялікіх падзеяў, вымагае ад кожнага якнайбольш дзейнасьці, бо толькі дзейны чалавек выходзіць з гэтае барацьбы пераможнікам.

Непаплатнай зрабілася прадукцыя зернавых хлябоў, трэба застанавіцца над пытаньнем ці нельга было-б перабудаваць сваю гаспадарку так, каб яна сталася паплатнай нават зараз.

А гэтакія магчымасьці істнуюць. Есьць яшчэ шэраг артыкулаў земляробскае гаспадаркі, цэны на якія зусім яшчэ магчымыя.

Пераробка расьлінных прадуктаў у прадукты таўшчовыя і мясныя, шляхам гадоўлі living рознае скаціны, пчалярства, гародніцтва, садоўніцтва, гадоўля і пераробка лёну, гадоўля лекарскіх і прамысловых расьлін, шоўкаўніцтва, птушніцтва і розныя іншыя дробныя пабочныя галіны земляробскае гаспадаркі — вось тыя шляхі, якімі можна атрымаць прадукты, якія дадуць больш карысьці чым гадоўля зерневых хлябоў ці караньплодаў.

Другім вельмі важным момэнтам у парушанай справе зьяўляецца пытаньне аб арганізацыі збыту выпрадукаванага. Неарганізаваны збыт ніколі не дае прадуцэнту поўнай вартасьці яго прадукту, тут найбольш карысьці атрымлівае гандляр-пасярэднік, які карыстаючыся цяжкімі варункамі селяніна бяз лігасьці яго вызысківае. Але і тут ёсьць ратунак.

Коопэрацыя — вось той шлях, ідучы якім можна пазбавіцца вызыску з боку гандляроў-пасярэднікаў. „Беларуская Борць" прызнае патрэбным дапамагчы нашаму селянству, у сучасны адказны момант, хоць крыху папправіць яго долю. Пачынаючы з гэтага нумару, мы ўводзім новыя аддзелы прысьвечаныя розным дробным галінам селянскае гаспадаркі, каб паказаць шляхі перабудовы гэтае гаспадаркі на новых больш карысных падставах.

Прыступаючы да гэтае працы мы заклікаем усіх нашых чытачоў да супрацоўніцтва з намі. Пішыце да нас аб сваіх спасьцярогах, сваіх досьледах. Прысылайце хто можа артыкулы па розным пытаньням сельскае гаспадаркі.

Мы хочам, каб у „Беларускай Борці" побач з артыкуламі спэцыялістаў-тэорэтыкаў, якія абяцалі нам сваё супрацоўніцтва знаходзіліся і артыкулы спэцыялістаў—практыкаў. Мы хочам каб на бачынах „Бел. Борці" кожны мог знайсьці адказ на ўсе цікавыя для яго пытаньні.

Тады супольнымі сіламі нам лягчэй будзе змагацца з цяжкімі варункамі сягоньняшняга жыцьця і выйсьці на шырэйшыя прасторы лепшага заўтра.

М. Манцэвіч.

## ЛІСТАПАД У ПЧАЛЬНІКУ.

Прайшоў яшчэ адзін пчалярскі сэзон. Які ён быў, якія даў вынікі?

Адказу на гэтыя пытаньні чакаем ад нашых падпішчыкаў, але на вельмі памысныя весткі не спадзяёмся, бо позная і халодная вясна ды мокрае лета вельмі мала спрыялі працы нашай маленькай жывёлінкі.

— Цяпер праца ў пчальніку ўжо скончылася. А можа ня ўсюды? Можа яшчэ ня ўсе пасьпелі падкарміць галодныя сем'і і апакаваць іх.

Калі хто спазьніўся, то няхай-жа даўжэй ня чакае, а зараз падкорміць свае пчолы цукровым густым (на 2 шклянкі цукру 1 шкл. вады) сыропам, дадаючы на 6 літр. сыропу 1 грам саліцылявага квасу. Падкармліваць трэба з гары: наліўшы сыропу ў шкляны слоік абвязаць яго чыстым палатном і перавярнуць над рамкамі. Сыроп трэба даваць цёплы, а калі б было вельмі зімна, то пад рамкі добра палажыць бутэльку з гарачай вадой, каб падняць тэмпэратуру ў вульлі і зварушыць пчол.

Не забывайма, што пчолы му-

сяць мецъ ня толькі ежу, але і адпаведнае цяпло.

У нас пчолы пераважна зімуюць на дварэ, вось і трэба старацца добра запакаваць вульлі, каб холад пчол ня трывожыў і ня змушаў есьці шмат мёду дзеля вытварэньня патрэбнага цяпла. Зьверху на рамкі кладзём таўстую саламяную мату або сяньнік (калі вульлей мае драўляную столь — дошкі, то іх на зіму зьнімаем) бакі — паміж застаўной дошкай і сьценкамі гэтак сама закладаем матамі або сяньнікам; добра таксама даць тонкую мату на дно вульля пад рамкі. Сяньнікоў ня можна напіхаць сенам, бо яно хутка вільгатнее, а толькі сухім (сушаным) мохам або сухім лісьцём.

Вылеты трэба паменьшыць, (каб толькі 2—3 пчалы маглі перайсьці) і зрабіць перад імі засланкі ад ветру і сонца.

## Не марнуйма ні крышкі воску.

Воск заўсёды мае не малую цану ў прадажы, а ў сваей гаспадарцы дзеля пераробкі на вузу мае вялікую вартасьць. Дзеля гэтага, маючы цяпер час, трэба пазьбіраць самыя дробныя крошкі воску і перагледзець запасовыя плястры, павыйманыя з вульлёў.

Цёмныя, старыя павырэзываць з рамак і ператапіць разам з дробнымі кусочкамі, абломкамі і г. д., а чыстыя, маладыя плястры перахаваць так, каб яны не забрудзіліся — не запыліліся, і каб іх не папсавалі ні мышы ні матыліца. Дзеля таго, што матыліца ня любіць калі праз сушт праходзіць сьвежае паветра, найлепш перахоўвацца рамкі, паразьвешываныя здалёк адна ад другой, высака на сьцяне ў каморы, пустой чыстай хаце або нават на чыстым падстрэшшы. Холаду сушт не баіцца, а гэтак паразвешыванай ні мышы, ні матыліца шкоды ня зробяць.

В-а.



М. ЯКІМЕЦ.

## Хваробы і ворагі пчолаў.

(працяг).

Гнілец эўрапэйскі (плютоновы).

Прычынаю гэтае хваробы зьяўляецца бактэрыя Bacillus pluton, якая ў вадзе 63°C гіне ў працягу 10 мінут; у мейсцы сухім можа трываць больш як год, а ў мёдзе і пылку некалькі гадоў. Bacillus pluton ёсьць бактэрыяй неспараноснаю, маючаю каля 1mm. даўжыні. Інкубацыйны час трывае прыблізна 3 дні, так што чарвячкі гінуць незавасканаваны на 3—5 дзень свайго жыцьця. Часамі бывае, што пры эўрапэйскім гнільцы чарва паміpae запячатаная, але гэта здараецца зараз-жа пасля яе запячатаньня. У гэткім выпадку трэба ўважаць, ці ня маем тут хваробы мяшаные, гэта значыць, ці ня ёсьць тут прысутны таксама Bacillus larvae. Гэ-

такія выпадкі апісалі Zander і Morgenthaler. У целе паміраючага чарвячка апрача Bacillus pluton знаходзяцца часамі Bacllus lanceolatus. Пасьля сьмерці чарвячка, калі ён пачынае ўжо раскладацца, мейсца Bacillus pluton займаюць іншыя бактэрыі: Sireptococens apis i Bacillus alvei.

Заражэньню пры гэтай хваробе падлягае чарва усіх гатункаў, гэта значыць пчаліная, трутнёвая і на маткі. Захварэўшага чарвячка можна пазнаць па зьмене коляру. Здаровы чарвячок бывае бліскучы і мае коляр з сінявятым адценкам. Тады, калі хворы чарвячок, бывае жоўты і празрысты; ў прасьвечываючыхся кішках можна бачыць белыя грудкі. Наступна чарвячок цямнее і робіцца бурым. У залежнасьці ад таго, колькі часу прайшло ад часу заражэньня, коляр бывае розны. І таму каля здаровых чарвячкоў бачым чарвячкі жоўтыя, сівыя і бурыя. Гэтае зьявішча ёсьць вельмі характэрнаю і адзінаю важнаю азнакаю гэтай хваробы. Скурачка чарвячкоў пры эўрапэйскім гнільцы не распадаецца і чарячок ня творыць цягучай жыжкі, прылягаючай моцна да дна чарвачкі. І таму пчолы могуць памёршую чарву лёгка выцягнуць з чарачак і выкінуць на двор. Выцягнутыя чарвячкі можам бачыць на дне вульля і каля лёткі. Згніўшая маса аддае часамі кіслымі, гнілымі яблыкамі і не цягнецца пры кратанні яе маленькай тросачкай або сярнічкай, як мы гэта бачылі пры амэрыканскім гнільцы. Гнілец эўрапэйскі бывае пераважна вясною і спачатку лета. Заражэньню эуропэйскім гнільцом падлягаюць толькі раі слабыя. Раі сільныя, нават калі ў іх заразак знайдзецца, даюць лёгка з ей раду. Бо калі ў вульлі ёсьць пчолаў шмат і калі яны працавітыя, дык яны вяльмі хутка павыцягваюць і павыкідаюць памёршыя чарвячкі і гэтым самым звольняцца ад заразы, чаго можа нават не заувжыць пчаляр. Трэба тут сказаць, што пчолы расаў чыстых бароняцца ад эўрапэйскага гнільца лепш ад скрыжаваных, а пчолы італьянскія паводле некаторых пчаляроў адзначаюцца найбольшаю адпорнасьцю, што можна вытлумачыць тым, што італьянскія пчолы адзначаюцца надзвычайнай працавітасьцю і чысьцінёй.

У вульлі заразкі з чарвячка на чарвячка пераносяць пчолы, каторыя кормяць чарву. Галоўнымі пераношчыкамі заразы з вульля ў іншыя вульлі зьяўляюцца пчолы зладзейкі, апрача таго маладыя пчолкі, якія блудзяць у часе свайго першага аблёгу, і пералёты трутняў.

Лячэньне і змаганьне з эўрапэйскім гнільцом зводзіцца да таго, каб памагчы пчолам у іх самавылячэньні.

Дзеля гэтага трэба, усільваць слабыя і хворыя сем'і чарвою і маладымі пчоламі з іншых сільных семя'ў. Калі хворых сем'яў ёсьць на пчальніку большая колькасьць іх трэба лучыць па некалькі разам. Трэба хворыя сем'і утрымоўваць у цяпле і падкормліваць невялікімі порцыямі цукровага сыропу.

У Амэрыцы і у Швайцарыі стасуюць пры эурапэйскім гнільцы зачыняньне маткі ў клетачку на 6 — 8 дзён. Гэтым затрымліваецца чарўленьне і даецца магчымасьць пчолам вычысьціць усе чарачкі. Спосаб гэты дае вельмі добрые вынікі. Калі гэтакае лячэньне не памагае, дык астаецца паступіць з хвораю сям'ёю так, як пры амэрыканскім гнільцы, гэта значыць перагнаць у новы вулей з штучнаю вузой.

(Працяг будзе).

*Садзі мёдадайны жываплот —*
*будзеш есьці мёд.*

## Кангрэс Міжнароднай Зелярскай Фэдэрацыі.

У Брусэлі (Бэльгія) 28-VII—5-VIII с. г. здбыўся V Кангрэс Міжнар. Зелярскай Фэдэрацыі. У Кангрэсе бралі ўдзел наступныя дзяржавы: Англія, Аўстрыя, Бэльгія, Вэнгрыя, Галяндыя, Гішпанія, Італія, Латвія, Літва, Люксэнбург, Нямеччына, Польшча, Пэрсыя, Румынія, Францыя, Чэхаславачына, Швайцарыя, Эгіпт і Югаславія.

Падчас Кангрэсу адбылася I Міжнародная Выстаўка пробаў лекарскіх і прамысловых расьлін.

На Кангрэсе быў прачытаны шэраг рэфэратаў як навуковага характару, так і прысьвечаных справам гадоулі і гандлю.

З прачытаных рэфэратаў і дыскусыі высьветлілася, што афіцыяльная мэдыцына усё больш і больш ўвагі зварочывае на лекі расьліннага паходжаньня, замяняючы імі лекі хэмічныя. Ува ўсіх краінах значна пашырылася гадоўля лекарскіх расьлін і адным з галоўных пытаньняў у зёлкавай справе сталася справа адпаведнага прыгатаваньня і сартаваньня зёлак.

Зёлкі толькі тады могуць быць ужываны як лек, калі яны па свайму складу і спосабу прыгатаваньня адпавядаюць пэўным устаноўленым вымаганьням.

Дзеля гэтага справа нормалізацыі зёлак прызнана Кангрэсам найактуальнейшай справай.

Найбольш посьпехаў у гэтым напрамку асягнута ў Аўстрыі, а асабліва ў Вэнгрыі.

У апошняй істнуе Дзяржаўная Станцыя Лекарскіх Расьлін, якая устанавіла варункі, якім павінны адказываць гадаваныя там лекарскія расьліны, і выпрацавала нормы па якім расьліны гэтыя залічаюцца да адпаведных гатункаў.

Нпр. для румянку, які зьяўляецца адным з галаўнейшых артыкулаў, ўстаноўлена 6 гатункаў гандлёвых, з якіх толькі вышэйшыя гатункі ідуць у гандлі, як аптэчны тавар, а рэшта як сырэц да тэхнічных пераробак і на ванны.

Станцыя на падставе прысланых пробак залічае тавар да таго ці іншага гатунку і выдае аб гэтым пасьведчаньне і адпаведныя этыкеткі.

Дзякуючы гэтай сыстэме плянтатар знае вартасьць свайго тавару і зьяўляецца забязпечаным ад вызыску яго праз гандляроў-скупшчыкаў, якія стараюцца залічаць тавар да горшых гатункаў, каб меньш за яго заплаціць.

У нас, на жаль мусім сцьвердзіць, на справу адпаведнага збору зёлак вельмі мала зьвяртаюць увагі, а гэта вельмі некарыстна адбіваецца на іх цэнах.

Пры заканчэньні Кангрэсу выбрана Галоўная Камісія, у склад якой вайшлі прадстаўнікі розных дзяржаваў.

Наступны Кангрэс адбудзяцца ў 1937 годзе ў Празе Чэскай.

---

## Зёлкі, на якія ёсьць запатрэбаваньне.

Побач падаемо (паводле „Wiadomości Zielarskich") для арыентацыі гуртовыя цэны, якія трэба разумець loco станцыя нагрузкі за 1 кгр. тавару добрага гатунку.

Кветкі—Flores.

Арніка—Arnica Montana 1.80—2.40

Румянак—Matricaria Chamomilla 2.50—3.50

| | |
|---|---|
| Васілёк—Centaurea Cyanus | 4 50—5.— |
| Бузіна—Sambucus Nigra | 2.—2.25 |
| Ліпа—Tilia | 0.90—1.10 |

**Ягады—Fructus.**

| | |
|---|---|
| Чарніцы—Vaccinum myrtyllus | 0.70—0.80 |
| Маліны—Rubus Idaeus | 3.00—3.50 |
| Рабіны—Sorbus aucuparia | 0.40—0.50 |

**Зельле—Herba.**

| | |
|---|---|
| Палын—Artemisia Absinthium | 0.30—0.40 |
| Хвошч палявы Equisetum arvense | 0.20—0.25 |
| Сьвятаянскае зельле — Hypericum perforatum | 0.30—0.35 |
| Палявыя братачкі—Viola tricolor | 0,50—0.60 |

**Лісьцё—Folia.**

| | |
|---|---|
| Воучая ягада — Altropa Belladona | 1.50—2.20 |
| Блёкат—Hyoscyamus niger | 1.00—1.50 |
| Дурнапьян—Datura Stramonium | 0.70—0.90 |
| Пятровая мята—Mentha piperita | 2—3.— |
| Мачанічнік — Arctostaphylos Uva ursi | 0.25—0.35 |

**Карэньня—Radix.**

| | |
|---|---|
| Мыдлік ці Панчошнік—Saponaria officinalis | 1.00—1.10 |
| Валерьян—Valeriana officin. | 2.50—3.— |

**Кара—Cortex.**

| | |
|---|---|
| Крушына — Rhamnus Frangula | 0.20—0 25 |
| Дуб—Quercus | 0.20—0.30 |

---

| | |
|---|---|
| Пылак дзеразы — Spore Lycopodium clavatum | 3—4.— |
| Спарыньня—Secole carnutum | 2.50—3.— |
| Пупышкі бярозы—Gemonae Betulae | 1.40—1.70 |

---

МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.

# Аб шоўкаўніцтве.

Адной з галін гаспадарчага жыцьця, дасюль яшчэ ў нас зусім не разьвітай, зьяўляецца шоўкаўніцтва.

Паняцьце „шоўкаўніцтва“ абыймае цэласьць — гадоўлю шоўкапрадаў і пераробку шоўку на тканіну.

Маёй мэтай ёсьць тутака толькі зьвярнуць увагу — перадусім моладзі — на добрыя бакі гадоўлі шоўкапрадаў, цэннай галоўным чынам у Заходняй Беларусі, як краі бяз большага прамысловага разьвіцьця, з беднай зямлёй, нізкім роўнем земляробскай культуры і вялікім лікам малазямельных гаспадарак.

Як ведаем, шоўк ёсьць вытварам гусьвіцы шоўкапрада *(Bombyx mori)*, каторы залічаецца да групы аваднёў г. зв. матылёў *(Lepidoptera)*.

Жыцьцё яго ў кароткіх славах прадстаўляецца гэтак: з яечак зложаных праз саміцы вылупліваюцца гусьвіцы, каторыя жывяцца толькі лісьцём морвы *(Morus)*. Яны вельмі шмат зьядаюць лісьця морвы, скора растуць і чатыры разы

лінаюць (скідаюць скурку) пакуль вырастуць. Ужо вырасшыя гусьвіцы шэра-белага коляру ў цямнейшыя плямкі, снуюць з двох спэцыяльных прадзільных заложак, зьмешчаных на галоўцы, дзьве цененькія шаўковыя нітачкі, каторыя лучацца ў адну падвойную, і з каторых гусьвіцы робяць сабе вопрадні. Гэтая нітка мае даўжыні 700 — 1200, а нават 1500 мэтраў, залежна ад расы шоўкапрада, як і варункаў гадоўлі.

Унутры вопрадняў, якія служаць за абарону ад ворагаў і холаду, гусьвіцы перавяртаюцца ў нярухомыя пачваркі бранзовага коляру.

Пасьля гэтага праз два тыдні пачварка мяняецца ў матыля, распушчае сьлінай адзін канец вопрадня і вылятае з яе ўжо як дарослы авадзень *(imago)*.

Але хочучы з вопрадня атрымаць шоўк, ня можна дапусьціць, каб матыль выкляваўся і дзеля таго трэба забіць пачваркі ў вопраднях гарачым паветрам або гарачай вадзяной парай, астаўляючы толькі малую колькасьць пры жыцьці, каб мець з іх матылі, а з гэтых яечкі на наступныя пакаленьні.

Далей трэба разьвіваць вопрадні, што зрабіць ня трудна. Каб распусьціць клей, які зьлеплівае нітачкі, кладзецца вопрадні ў гарачую ваду і паціраючы шчоткай па кожным вопрадні шукаецца пачатку ніткі. Знайшоўшы яго, лёгка ўжо разматаць цэлы вопрадзень і зрабіць маток.

Але звычайна роля гадоўцы канчаецца ўжо на забіцьці пачварак, вопрадні-ж высылаецца ў фабрыку, дзе яе разьвіваюць на ніткі.

Цэлая праца пры гадоўлі шоўкапрада цягнецца толькі праз 4 да 6 тыдняў і гэта ў часе вельмі выгадным для земляроба, бо дзесь у палавіне траўня і ў чэрвені калі ўжо веснавыя работы ў полі канчаюцца. Гадоўля гэтая мае яшчэ за сабой тое, што 1) ня трэба тут вялікіх коштаў, 2) вельмі лёгка яе весьці; патрапяць рабіць гэта нават кабеты, старыя і дзеці, 3) атрыманы тавар ахвотна ўсюды купляюць, 4) можна трымаць яго даў) жэйшы час і ён ня псуецца і 5- перасылка ў мейсца прадажы вельмі лёгкая. Трэба яшчэ зацеміць, што на нармальную гадоўлю (г. ё. з 25 грамаў яечак) непатрэбны спецыяльны будынак і зусім хопіць уступіць толькі на некалькі тыдняў з найлепшага кутка ў хаце.

Часта прыходзіцца чуць, што гадоўля шоўкапраду не дае ў нас ніякой карысьці. З гэтым ніколі ня можна згадзіцца.

Перадусім ступень паплатнасьці гадоўлі шоўкапраду залежыць ад вялічыні і мясцовасьці гадоўлі, а так-жа і ад самай асобы гадоўцы.

Гадоўля з некалькіх грамаў яечак можа прынясьці тую карысьць, што дасьць практычную веду, і таму кожны, хто хоча быць добрым гадоўцам мусіць правясьці раз або два такія малыя, пробныя гадоўлі хаця-б толькі дзеля набраньня гэтай практыкі.

Што да мясцовасьці, дзе вясьці гадоўлю, то трэба сказаць, што большае значэньне будзе мець даход з гэтай гадоўлі для сялян жывучых далёка ад вялікіх местаў ці ня маючых добрай комунікацыі, чым для гаспадароў жывучых блізка ад места.

Але найляпей гадоўля шоўкапраду будзе спаўняць сваю гаспадарчую ролю, калі будзе заняцьцем дадаткова-сэзановым малазямельнага селяніна, як гэта ёсьць у іншых краёх.

Расход і даход у нармальнай гадоўлі шоўкапрада (з 25 грамаў яечак) маючы ад 20 штук 20-цігадовых дрэваў морвы або 50 дрэ-

ваў 10-цігадовых або 200 4 х гад. кустоў морвы прадстаўляецца гэтак:

**РАЗХОД**

| | |
|---|---|
| 1) Вартасьць яечак шоўкапрада, 25 грамаў па 90 грошы . . . | 22,50 зл. |
| 2) Вартасьць паперы . . | 25,00 зл. |
| 3) Апал, кошты дэзынфекцыі. . . . . . | 15,00 зл. |
| 4) Амортызацыя прыладаў да гадоўлі і дробныя расходы . . . | 5,00 зл. |
| Разам | 67,50 зл. |

**ДАХОД**

| | |
|---|---|
| 1) Вартасьць атрыманай з гэтай гадоўлі 50 клг. высушанай вопрадні лічачы па зл. 12 за 1 клг. . . . . . . | 600 зл. |
| Чысты даход | 532,50 зл. |

Або калі прадаваць сьвежыя вопрадні, то пры атрыманых з гэтай гадоўлі 50 клг. вопрадні лічачы па зл. 4 за 1 клг. . . 200 зл.

Чысты даход 132,50 зл.

Пры гэтых аблічэньнях прыймаем, што з 1 грама яечак будзем мець нармальную зборку вопрадні — 2 клг.

Але практыка паказала, што большасьць нашых гадоўцаў атрымлівае з 1 грама яечак ад 1—1½ клг. вопрадні, што ёсьць колькасьцяй вельмі нізкай і за што трэба вініць толькі непрактычнасьць гадоўцы. Аднак-жа трапляюцца і такія вынікі, што з 1 грама яечак атрымліваюць да 2½ а нават 3 клг. вопрадні *).

Вынік гэты залежыць толькі ад умелага і стараннага вядзеньня гадоўлі, а больш як 530 зл. чыстага даходу за 4 — 6 тыдняў пацьверджае, што гэтай галіны вытворчасьці няможна абмінаць.

Не адзін падумае тутака, што аўтар гэтага артыкулу напэўна ня першы „адкрыў гэтую Амэрыку“ і што мусіць, калі-б гэтак сапраўды было, як ён піша, дык у нас людзі даўно-б пазналіся на паплатнасьці гэтай галіны і шоўкаўніцтва было-б вельмі распаўсюджаным.

Гэтакі чытач будзе мець часткова рацыю, бо не я першы пазнаўся на даходнасьці гадоўлі шоўкапрада, гісторыя гэтага пачынаецца дзесь аж ад 2600 гадоў перад Хрыстом за часоў панаваньня ў Кітайі царыцы Сі-лінг-хі **), або нават раней. І ў нас людзі ўжо пазналіся на паплатнасьці гэтай гадоўлі, але тутака яна яшчэ не разьвілася з тэй прычыны, што адным з канечных варункаў, бяз якога гадоўля шоўкапрада ня можа існаваць, ёсьць канечнасьць мець дрэвы морвы.

Нястача гэтай расьліны, як корму для гусьвіц шоўкапрада ёсьць прычынай таго, што гэтая галіна вытворчасьці ў нас ня можа разьвіцца.

Найлепшым гатункам морвы, годным ў нашых географічных і кліматычных варунках, ёсьць белая морва (*Morus alba*).

Таму першай з нашых задачаў мусіць быць саджэньне дрэваў морвы, без каторых аб шоўкаўніцтве ня можна думаць.

Дык садзема дрэвы морвы, гадуйма гусьвіцы шоўкапрада, помнячы, што шоўкаўніцтва, гэта адна з дарог, якія вядуць да дабрабыту!

*Вільня, 26 кастрычніка 1935 г.*

*) Сёлета з гадоўлі 1 грама, ведзэнай праф. Сьвідэрскім у Школьнай Прыродаведнай Працоўні ў Вільні, атрымана аж тры кіляграмы і сем дэк вопрадні.

**) Пасьля кітайцы прызналі яе за багіню, якая апякуецца шаўкаўніцтвам.

*Ад рэдакцыі.*

Шукаючы новых дарог, якія вывялі-б нас з цяжкага сучаснага крызысу ня можам ня зьвярнуць увагі нашага грамадзянства на шаўкауніцтва тым больш, што морвы, лісьцём якіх кормяцца гусьвіцы шаўкапра даюць добры пажытак пчолам у канцы траўня і ў пачатку чэрвеня.

— У сягодняшнім артыкуле паважаны аўтар дае агульны агляд гэтай новай і цікавай гаспадарчай галіны, а далей дамо рад падрабязных артыкулаў аб гадоўлі морвы і аб гадоўлі шоўкапрадаў.

---

# Сад пры хаце.

У Чэхаславацыі і іншых краёх фруктовыя дрэвы растуць ня толькі ў садах, імі абсаджываюць межы, дарогі і садзяць наагул ўсюды, дзе яны толькі могуць расьці. Ня гэтак у нас. Рэдка каля якой хаты ёсьць меньшы ці большы садок, ды і то так блага утрыманы, што і фруктаў дае мала і вартасьці яны вялікай не маюць.

Сягодня наш малазямельны селянін даходу са сваей гаспадаркі нават не спадзяецца і шукае ўселякіх дарог, каб магчы утрымацца і пракарміць сямейку. Аднэй з гэтакіх дарог і будзе закладаньне і рацыянальнае утрыманьне садоў.

Той хто мае сякі-такі садок павінен рупіцца, каб яго добра даглядзець: адмаладзіць, калі трэба; пэряшчапіць, калі яго дрэвы малавартастныя; угнаіць ў пару і рацыянальна, ды абараніць яго ад розных шкоднікаў.

Хто саду ня мае, а хоча яго пасадзіць, мусіць ведаць, як гэта найлепш і найлягчэй зрабіць, ды каб кошты былі самыя малыя.

Хочучы дапамагчы адпаведнымі парадамі нашым селянам, а асабліва аматарам пчалярства, які дзеля сваіх пчолак парупяцца напэўна аб павялічываньне і засаджываньне садоў, пачынаем ад гэтага нумару даваць артыкулы з галіны садоўніцтва.

Будзем старацца закрануць ўсе неабходныя пытаньні ды даваць самыя магчымыя да выпаўненьня рады.

Просім ўсіх нашых паважаных чытачоў зварочывацца да нас з кожным пытаньнем, якое у вас паўстане ў галіне садоўніцтва. Чым больш будзе пытаньняў, чым большае зацікаўленьне, тым больш будзем пэўныя, што нашая праца не дарэмная,

---

## ПЕРШЫЯ КРОКІ.

Хочучы пасадзіць сад бяз ніякіх коштаў, трэба самім сабе выгадаваць дзічкі, на якіх пасьля зашчэпім пажаданыя гатункі.

Дзічкі сваей гадоўлі, гэта гарантыя, што яны: 1) сапраўды выгадаваныя з зярнят дзікіх дрэваў, значыцца будуць моцныя і 2) выгадаваныя ў сябе — прызвычаяныя да нашага даволі вострага клімату.

Насеньне дзікіх яблыняў і грушаў прыдбаць ня трудна. Часта па межах растуць грушы — дзічкі, а ў лясох дзікія яблыні. Дзікія яблычкі вельмі кіслыя да ежы нездатныя і ніхто іх ня зьбірае, дзеля гэтага трэба іх зьбіраць спэцыяльна дзеля насеньня; сабраныя ў якой небудзь скрыначцы перасыпаць зямлёй, заліць вадой і паставіць ў цёплым мейсцы, напр. ў хляве, ды часта перамешываць, пакуль яблыкі ня згніюць. Тады выймаем ўсю масу на рэшата і пе-

раціраем паліваючы вадой аж пакуль не астануцца ў рэшаце чыстыя зярняты, якія рассыпаем тонкім пластам на стале ці на якой дошцы, каб добра перасохлі.

Ґрушкі дзічкі, г. зв. гнілкі, даволі смашныя і ахвотна ядуцца. Вось ядучы трэба старанва зьбіраць зярняты і прасушыўшы хаваць у правеўным мейсцы.

Калі ёсьць магчымасьць сабраць вялікую колькасьць зярнят дзікіх яблыняў і ґрушак, то гэту магчымасьць трэба заўсёды выкарыстаць, бо на такое насеньне ёсьць з году ў год вялікае запатрэбаваньне.

Насеньне дзічак сеецца ў восені або вясной. Але сеянае ў восені могуць выбраць з зямлі птушкі або мышы, дзеля гэтага практычней сеяць вясной. Насеньне, якое маем сеяць вясной, мусіць быць „стратыфікаванае“ г. зн. сыпем яго пластамі ў плоскую скрынку і перасыпаем вільготным пяском ды закрываем зьверху дошкай. Гэтак прыгатаваную скрынку ставім ў яму на $1/2$ мэтра глыбіні, выкапаную ў сухім мейсцы, і засыпаем зямлей.

Калі хто стратыфікуе і ґрушы і яблыні, то мусіць скрынкі адпаведна назначыць.

Трэба дадаць, што закапываем тады, калі зямля пачынае мерзнуць.

Гэтак нашы зярнята астаюцца да вясны.

З В.

---

МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.

## Барацьба са шкоднікамі саду познай восеняй і зімою.

Позная восень і зіма гэта час, калі шкоднікі, схаваные ў шчылінах кары, у зямлі, або ў іншых хаванках, прабываюць зімовы сон.

Адныя з іх зімуюць у форме яечак, іншыя—як гусьвіцы, пачваркі, а яшчэ іншыя,—як дэрослыя авадні.

Гэтак, нпр. Пярсьцёнкавы прадзільнік *(Malacosoma neustria)* складае яечкі на маладых галінках, робячы з яечак як-бы пярсьцёнкі. Каб не дазволіць з яечак выклёўвацца вясною гусьвічкам, трэба ўжо цяперака абрэзываць галінкі дрэў, ва каторых пароблены такія пярсьцёнкі, і паліць іх.

Іншы шкоднік Яблынная моль *(Hyponomeuta malinella)* складае свае яечкі таксама на галінках у маленькіх плоскіх кучках і аблівае іх жыжкай, каторая цьвярдзее і робіць малазначныя шчыткі. Пад такімі шчыткамі выклёўваюцца яшчэ перад зімою гусьвічкі, але выпоўзаюць з пад іх аж вясною. Зьнішчыць іх можна апырскаўшы дрэвы карбольнай мешанінай *).

Мошкі *(Aphididae)* і Лістаскочкі, інакш званыя Мядоўкамі *(Psyllidae)*, складаюць свае яечкі ў шчылінах кары, на пупышках дрэваў і г. п. мэсцах, дзе яны і зімуюць. Апырсківаньне дрэваў карбольнай мешанінай губіць іх.

Яечкі Шчытковых мошак *(Coccinae)* зімуюць пад шчыткамі памёршых самічак. Аскробываньне кары і апрысківаньне карбольнай мешанінай дае добрыя вынікі ў ніпчэньні іх.

Гусьвіцы Златагузкі *(Euproctis chrysorrhoea)* зімуюць у скручаных

*) Прыгатаўляць яе ў такі спосаб: у нявялікай колькасьці гарачай вады распусьціць 200 грамаў шэрага мыла і дадаючы (паступова) 100 грамаў неачышчанай карбольнай кісьлі, добра вымешаць і даліць да таго яшчэ 12 літраў вады. Ужываць у дзень пагодны, даволі цёплы і калі няма на дрэве лісьця.

лісткох, злучаных з сабою павучынай (г. зв. „зімовыя гнёзды“), а падобныя ім „зімовыя гнёзды“ толькі меншыя, завешаныя таксама на павучыньні (але ў кожным лісьце па адной гусьвіцы) належаць да Бяляна жываплотніка, інакш званага шыпшынніцай *(Aporia crataegi).* Гнёзды гэтыя нішчацца, зьбіраючы і палючы іх.

*У* шчылінах кары, у белых вопраднях зімуюць гусьвіцы Яблачнай пладоўкі *(Laspeyresia pomonella),* каторая выклікае „чарвівасьць пладоў“. Калі раньняй восеняй былі закладзены на пнях дрэў перавёслы з саломы, паперы ці інш. матэр'ялаў, — цяперака іх трэба зьнімаць і знайдзеныя тамака гусьвіцы нішчыць.

*У* гэтых-жа перавёслах хаваецца таксама Яблынны даўганосік *(Anthonomus pomorum)* адзін з найгразьнейшых шкоднікаў яблыні.

Цэлая праца ў садзе (познай восеняй і зімою) дзеля забяспечаньня яго ад шкоднікаў палягае 1) на: Звапнаваньні апаўшага лісьця ў садзе, а пасьля перакопваньні зямлі пад дрэвамі (у кастрычніку ці пачатку лістапада) ў мэтах зьнішчэньня зімуючых тамака яечак і пачварак шкоднікаў, 2) на аскрабаньні дрэў, 3) на абразачьні галінак з яечкамі Пярсьцёнкавага прадзільніка, 4) на сабіраньні „зімовых гнёздаў“ Златагузкі і Шыпшынніцы, 5) на зьняцьці і зьнішчэньні перавёслаў з дрэў і 6) на апырсканьні дрэў у цёплы дзень (пад канец зімы) карбольнай мешанінай.

Трэба заценіць, што работы гэтыя старанна праведзяныя дадуць вельмі добрыя выныкі.

Ня можна забывацца і аб агульнай ахове кволых дрэў перад марозам, і таму абсыпываюцца пяском і акручываюцца саломай пні. У канцы студзеня трэба пабяліць дрэвы вапнай, каб забясьпечыць іх перад раптоўным адмярзаньнем перамёрзшай дрэвіны, а ў канцы лютага працярабіць кароны дрэў і забяспечыць раны агародніцкай масьцяй. Так прадстаўляецца праца познай восеняй і зімою ў садзе.

Яшчэ адная рэч. Помнячы аб карысьцях, якія прыносяць нам птушкі жывючыся аваднямі, мусім памагчы ім у гэтым цяжкім для іх часе, дажыўляючы іх зімой. Каб звабіць іх на стала да нашага саду, трэба пазавешаць штучныя гнёзды (домікі) адпаведнай вялічыні для кожнага гатунку, у каторых птушкі, прабываючыя ў нас зіму, будуць начаваць, а вясною гнезьдзіцца.

Вільня, 19 кастрычніка 1935 г.

---

# АГАРОДНІЦТВА і ПЧОЛЫ.

Агульна ведама, што фруктовыя дрэвы і кусты даюць пчолам аграмадную карысьць тым важнейшую, бо раньнюю.

Але гэта недарма, бо і пчолы з свайго боку прыносяць тым расьлінам карысьць.

Расьліны дастаўляюць пчолам нэктар, пылок, мядунку ці мядовую расу і кіт; пчолы ўзамен пераносяць пылок з аднае кветкі на другую, апыляюць іх і тым самым прычыняюцца да багатага авачаваньня.

Фруктовыя дрэвы перавезеныя праз эўрапэйцаў у Аўстралію зусім не давалі пладоў, хоць багата цьвіцелі. Не памагалі ніякія сьродкі, ўжываныя праз агароднікаў, і цягнулася гэта да тае пары пакуль не прывязьлі туды пчол.

Земляробы добра ведаюць тое, што грэчка ў пагоднае лета, калі пчолы могуць добра хадзіць у по-

ле, больш будзе ўмалотнай, як у дажджлівае лета.

Пасьля таго, што тут сказана, відавочна, што для кожнага пчаляра карысна мець фруктовы сад і таксама для кожнага агародніка карысна мець пчолы. Як у адным, так і ў другім выпадку можна атрымаць падвойны даход.

Дзеля гэтага ў Нямеччыне і ў Швайцарыі кожны агародніцкі заклад мае большы ці меншы пчальнік.

Але ня толькі садоўніцтва, але й агародніцтва зьяўляецца гаспадарскай галінай, блізка зродненай з пчалярствам.

Шмат ёсьць варыва, якое, апрача агульна знанай карысьці, дае таксама карысьць і для пчол. Зразумелая рэч мусяць яны быць гадаваныя ў большай колькасьці. Дзеля гэтага дробныя гаспадары, як вясковыя, так і мястэчковыя, якія сеюць варывы толькі „для сябе“ ня могуць браць пад увагу мёдадайнасьці даннага варыва.

Я хачу тут пагаварыць аб тых большых агародах, г. зн. прамысловых і плянтацыях насеньня.

Агародныя расьліны дзеляцца на аднагадовыя і двухгадовыя.

Аднагадовыя гэта такі, каторыя пасеяны вясной разьвіваюцца, зьбіраюць запас патрэбных ім матар'ялаў ці то ў лісьці (як капуста), ці ў карэньнях (бручка, рэпа), а ўжо ў другім годзе цьвітуць і даюць насеньне. Аднагадовае варыва, умела падабранае, можа без перарыву даваць пажытак большай ці меншай колькасьці пчаліных сем'яў залежна ад таго, які абшар будзе варыва займаць. Не скажу, каб гэты пажытак быў багаты, што мог-бы заспакоіць вялікшыя патрэбы пчол і запэўніць яшчэ значную колькасьць мёду для пчаляра. Аднак у мясцовасьці беднай у мёдадайныя расьліны быў-бы ён вялікай дапамогай. Пчолы с свайго боку адудзячыліся-бы тым, што падняліб ўраджай варыва праз іх запладненьне.

Да агародных мёдадайных расьлін належаць: агуркі, гарбузы, гарох, фасоля, боб, чарнушка і мак.

Гэта варыва само праз сябе дае ня згоршы даход; калі яшчэ паміж ім паставім некалькі калод пчол, што шмат мейсца не займе і лішняй працы не патрабуе, дык будзем мець падвойны даход.

Пераходзячы да двух гадовых расьлін, гадаваных у другім годзе, па насеньня, трэба адзначыць, што ў нас добрае насеньне трудна дастаць. Нашы дробныя прадаўцы мала знаёмы з гадоўляй насеньня; хочучы якнайбольш зарабіць, выпісываюць яго адтуль, дзе найтаней можна дастаць, — часта-густа з паўднёвых краёў. Такое насеньне, папаўшы ў наш больш цяжкі клімат, гіне.

Гадоўля насеньня вельмі паплатная.

Не адзін дробны гаспадар мог-бы плянтаваць насеньне з карысьцю ня толькі для сябе, але цэлай ваколіцы, дасгаўляючы ей добрае насеньне. На гэта ня трэба вялікіх абшараў; хопіць невялічкі кусочак, каб толькі быў угноены і сонечны. Найлягчэй гэта рабіць у мястэчках, дзе ў большасьці ўласнасьць мешчаніна складаецца з. так званых гародаў, кускоў добра ўгноенай зямлі, найчасьцей засяваных бульбай ці ячменем. Вось-жа такія агароды, ўжытыя пад плянтацыі насеньня, разам з пчальнікамі далі-б вялікую матар'яльную карысьць і падняліб культурна — гаспадарчы ровень нашага краю. З уласнага досьледу ведаю, што як у агародзе зацьвіцяць: капуста, рэпа, бручка, рэдзька, цыбуля і г. д, дык пчолы нікуды ўжо больш не лятуць, а толькі грэмільна абсядаюць гэтыя кветкі. Расьліны, запыленыя ў час, даюць бататы збор буйнага насеньня.

Дык гадуем варывы, а тым больш іх насеньне, але ня іначай, як разам з пчоламі.

Чаму аб гэтым цяпер пішам? Цяпер-жа восень?

У тым і справа, што толькі ўвосені і пара падумаць аб вясьне. Цяпер і пара падумаць аб добрых высадках, распляноўваць гарод паводле новых мэтаў, да якіх думаем ісьці, а таксама ачысьціць яго ад розных астаткаў і пустазельля, падгнаіць і перакапаць або перагараць.

Л. С.

# Чым угнойваць?

Увесь пчалярскі сьвет заняты цяпер справай павялічэньня і унармаваньня пчалінай пашы.

Пішуцца сотні артыкулаў у часопісях, выдаюцца паасобныя брашуры, праводзяцца досьледы.

І слушна. Бяз павялічэньня плошчы медадайных расьлін, думаць нават нельга аб карысьнасьці пчалінай гаспадаркі.

Зразумела, што рэдка хто можа сабе пазволіць каб засеяць гэктары зямлі медадаямі, не даючымі іншай карысьці. Але ёсьць шмат расьлін гаспадарскіх, прамысловых, кармовых, якія аднача сна зьяўляюцца вельмі добрымі медадаямі.

Аднак гэтыя расьліны, каб зма глі даць поўны і то падвойны плён, мусяць мець адпаведныя умовы, а перадусім добра выробленую, добра угноеную зямлю.

Пры апісаньні гадоўлі паасобных расьлін часта чытаем рады: даць столькі і столькі вазоў гною, або столькі і столькі пудоў штучных гнаёў...

Скуль іх браць ? На штучныя гнаі няма грошы, а хляўнога гною ледзь пад бульбу хапае. — Вось ужо і ахвота адпадае ад спробаў з новымі расьлінамі. Тымчасам ў кожнай нават невялікай гаспадарцы пастараўшыся, можна назьбіраць некалькі сот пудоў угнаеньня, моцнага і добрага пад усе расьліны: у агародзе, ў садзе, ў полі і на сенажаці.

Гэтае угнаеньне — гэта к а м п о с т. Прыдбаньне яго нічога не каштуе апрача працы, а дае магчымасьць ня толькі палепшыць глебу і павялічыць ураджай, але прыносіць чалавеку яшчэ другую вялікую карысьць: аздараўляе сядзібу. Звычайна ўсе адкіды расьліннага, жывёльнага і мінэральнага паходжаньня выкідваюцца, дзе прыдзецца, і угніваючы заражаюць паветра, — асабліва памыі што ўсюды выліваюцца. Усе гэтыя рэчы, зложаныя ў адну кампостную кучу, і ёсьць высокавартастныя матэрыялы для угнаеньня.

Заграанічныя практыкі кажуць: кампостная куча гэта скарбонка, або кніжка ашчаднасьці кожнага земляроба.

І праўда. Кампостная куча прыймае ўсё, што толькі можа згніць: пустазельле (выпалкі) з палёў і агародаў, бульбеўнік, пілавіньне, кастрыцу, сухое лісьцё, торф, попел, старую тынкоўку, сьмяцьцё з хаты, панадворка ды уліцы, сажу і гд. і гд. Гэтага ўсяго набіраецца ў гаспадарцы вельмі многа. Трэба толькі аб кампосьце заўсёды помніць і нясьці на кучу кожскую сьмяцінку, як у скарбонку.

У далейшых артыкулах дамо падрабязнае апісаньне, як залажыць кампостную кучу, як яе дагледаць і як ею карыстацца.

З. С-я.

# Дзе злая воля?

(Адказ „Pszczelarzowi Polskiemu").

„Pszczelarz Polski" у № 4 за красавік месяц гэтага году моцна нагневаўся на „Беларускую Борць" галоўным чынам за тое, што „Борць"... беларуская.

Справа ў тым, што ў артыкуле „Як пазнаць праўдзівы мёд і воск" („Б. Борць" № 4, 1934 г.) між іншым сказана:..., найлепшым і найдасканальшым мэтадам распазнаваньня фальшывага мёду будзе аналіза, якая аднак вымагае лябораторыі, на якую рэдка хто можа здабыцца. Гэткая лябораторыя маецца толькі ўва Францыі (Польшча і нават Нямеччына яе ня мае)". Разлажэные на атамы.

Навязваючыся да гэтых слоў, нейкі пан ЗдаНоўскі з Вільні, „адвечны жыхар з Крэсув Всходьіх" у карэспадэнцыі з такім многазначным загалоўкам, як „Злая воля ці несьвядомасьць?" — прыходзіць да вываду: 1) што нашым артыкулам абражана годнасьць польскіх вучоных і Польшчы, і 2) самае галоўнае, што беларуская пчалярская часапіс непатрэбна. „Ці ж беларусы ня могуць чытаць па польску?" — такое „мудрае" пытаньне дапускае „Pszczelarz Polski" на сваіх старонках. Мы адказываем: натуральна могуць. Нават па ангельску і па нямецку, адкуль мы дастаём пчалярскія часапісі у абмен на нашу бедную на першы пагляд „Б. Борць". Але гэта яшчэ не значыць, што ня можна выдаваць пчалярскую часопісь па беларуску.

Нам здаецца, што няма такога вучонага на сьвеце, які быў бы пакрыўджаны ці абражаны за сябе і свой народ, калі-б, напрыклад, яму сказалі, што толькі Францыя мае Пастэраўскі Інстытут, бо-ж кожная такая навуковая установа ёсьць вялізарны здабытак не аднаго народу, а ўсяго чалавецтва.

Тут ужо справа йдзе не аб гонар польскіх вучоных, а сягае значна глыбей: гэтым спосабам ставіцца і вырашаецца ў Польшчы беларускае пытаньне, а славамі „я добра абазнаны цо то ест Бялорусь" выклікаецца палітычнае „поготове". Беларусаў не павінна быць у Польшчы, так дзеля чаго-ж дазваляецца выдаваць часапіс па беларуску!?

ЗдаНоўскі не вынятак. Мінулым летам, як згаварыўшысь, забіралі голас па беларускаму пытаньню і Шантэр у „Кур'еры Віленьскім", які дамагаецца школьных канцлягэраў, каб, адабраўшы ад сялян, лепей было палянізаваць іхніх дзяцей, і Вышамірскі у віленскім „Слове" і „Вядомосьцях Літэрацкіх", які прызнаецца, што вельмі ня любіць беларускіх сялян „хітрых і недаверлівых". (Натуральна яму хочацца, каб наш селянін быў дурны). Гэтыя паны усе разам і кожны па своему прызнаюцца, што „абціраліся" каля беларускае справы. Натуральна многа такіх ЗдаНоўскіх, Вышамірскіх, Шантэраў „абціралась" і дагэтуль „абціраецца" каля беларускае справы. За гэта, відаць, яны хлеб маюць. Нас не цікавілі-б спадкаберцы рыцара Заглобы, які прадаваў Галяндыю швэдзкаму каралю, калі-б за іхнімі плячамі не стаялі органы польскае прэсы, якія такімі артыкуламі сьвядома вытвараюць сярод сваіх чытачоў настрої маральных пагромаў над беларускай інтэлігенцыяй і народам. Мы не знаходзім іншага лагаднейшага акрэсьленьня школьным канцлягэрам, ненавісьці да „хлопскага твару", або пастаноўцы пытаньня аб ліквідацыі часапісі таму, што яна беларуская!

Нас цешыць тое, што аднак ня ўсё польскае грамадзянства падзяляе пагляды Здаsucceedsноўскіх і кампаніі.

Львоўскі „Bartnik postępowy", як раз шчыра прывітаў выхад у сьвет нашае часапісі і даў вельмі прыхільную ацэну тым самым артыкулам, на якія так узлаваўся „Pszczelarz Polski". Тое самае зрабілі і пчалярскія часапісі за граніцай.

Сваім праціўнікам у нас адзін адказ: мы жывем і будзем жыць, хоць ім гэта зусім не падабаецца. Маральныя і матар'яльныя сілы чарпаем і будзем чарпаць ад Беларускага Народу і сярод ягонай інтэлігэнцыі.

Наш рост успрымаецца прадстаўнікамі польскаго шавінізму, як „злая воля".

Няхай сабе. Спрачацца ня будзем.

Але нашыя гаспадарчыя справы, як і ўсе іншыя будзем вырашаць самі, карыстаючыся і надалей сваею роднаю мовак.

# З чужога жыцьця і прэсы.

## Гаеньне ранаў мёдам.

Доктар Цайс здаўна ўжо ўжывае мёд да гаеньня нячыстых і дзёртых ранаў. Ужо па 24 гадзінах рана бывае чыстая. Дробныя ранкі лечыць ён у вельмі хуткім часе праз звычайнае мазаньне мёдам. Перавязку з мёду трэба мяняць што 24 гадз. Доктар Цайс падае некалькі выпадкаў цяжкіх ранаў, якія вельмі скора ўдалося загаіць мёдам, і дзеля таго ён горача радзіць ужываць гэты просты і танны лек, „каторага дзеяньне граніччыць з цудам".

Трэба зацеміць, што ў нашай народнай мэдыцыне мёд да гаеньня ранаў ужываецца ўжо спрадвеку.

Цяпер — як бачым — гэтае самае лячэньне пачала ўводзіць і навуковая мэдыцына.

(Münchische medizinische Wochenschrift 1934. № 49).

## Пётра Пракаповіч — Карыфей Славянскага Пчалярства.

У ліпні месяцы 1935 г. мінула 100 гадоў з дня нараджэньня ўкраінскага пчаляра Пётры Пракаповіча, ведамага ў шырокім сьвеце. Радзіўся ён 12 ліпня 1775 г. у Чарнігаўшчыне, у сяле Мітчэнках, каля Батурына, быўшай сталіцы Украіны. Скончыў у свой час Кіеўскую Акадэмію Пятры Магілы. Быў афіцэрам. Кінуўшы вайсковую службу—ад 1798 году пачаў пчаляраваць. Меў у розных месцах свайго раёну пчальнікі, да 10,000 пнёў. У 1814 г. Пракаповіч вынайшоў першы рамовы вульлей, ужываў адгародку на матку (цяпер Ганэмакна), а ў 1828 г., у сяле Пальчыках каля Батурына, у сваім двары, залажыў першую ў Эўропе пчалярскую школу, якая праісна-

вала каля 50 гадоў і выпусьціла каля 600 вучняў. У школе Пракаповіча вучыліся вучні з розных краёў Эўропы. Вучні Пракаповіча разьнясьлі новую пчалярскую навуку ня толькі па Украіне, усей Славяншчыне, але нават Нямеччыне, Францыі, Італіі і г. д З часоў Пракаповіча лічыцца адраджэньне ня толькі славянскага, але й сусьветнага пчалярства.

Сёлета украінскія пчаляры ўрачыста сьвяткуюць 160-ыя ўгодкі свайго вялікага патрона П. Пракаповіча, які ў сям'і славянскіх народаў, побач з Яншай, Дзержонам, Грушкай і іншымі ўлажыў да рацыянальнага пчалярства сваю цэглінку.

*Ад рэдакцыі.*

З прыемнасьцю зьмяшчаем гэты ўспамін пра вялікага славянскага пчаляра і з пашанай хілім галовы прад яго слаўнай памяцьцю.

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

МАТУШЫ, Нясьвіскага павету.

Пчалярская гаспадарка у сёлетнім годзе вымагала ад пчаляра пэўнай развагі і прадбачаньня.

Гэты год быў лекцыяй ня толькі для пчаляра—сялянінa, але нават і для пчаляра фахоўца. Задача гэта выпала ў зьвязку з благой пагодай сёлетняй вясны і лета.

Той хто хоць трохі стараўся сьлядзіць за пагодай мядасборнай пары, лёгка выясьніць загадку, слабога збору меду а у зівязку з гэтым дрэннага стану пасек.

Добрая пагода, якая стаяла каля двух нядзель, выпала на канец чэрвеня і пачатак ліпеня. У часе гэтым бачым добры медазбор. Пчаляр выгнаў усе пчолы на работу, даючы ім адну а нават 2 надстаўкі на вулей. Пчолы добра выпэўнілі свай загад, далі гаспадару кожнага вульля пуд і больш меду. Але усё было-б добра, каб служыла далей пагода. У гнёздах была яшчэ чарва дык там зразумела меду не маглі пчолы насіць, а з наставак гаспадар пастараўся скарэй выкруціць. Што ж аказалася? У пэрыяд найлепшага мядазбору пачаліся халады, якія загналі пчол у вулей, а калі выпадаў цяплейшы дзень дык тады як раз мусеў падаць дождж І за ўсі лета не выпала $^{1}/_{3}$ дзён, у якія пчолы маглі-ба працаваць. А пчаляр, не прадбачачы нічога, пастараўся скарэй збыць той мёд, які ён ужо пасьпеў забраць ад пчол: а калі па нейкім часе заглянуў у вульлей, дык са страхам сьцвердзіў поўную адсутнасьць мёду. Цяпер сам аказаўся у трудным палажэньні, мусіў аддаць выкручаны мёд, або купляць цукар, калі мёд ужо быў прададзены, каб пчолы маглі перазімаваць. Горш яшчэ было з пчаляром, які стараўся павялічыць пасеку натуральнымі раямі або дзяленьнем пчол. Праца гэтая выпала якраз на той самы пэрыяд добрае пагоды. Зразумела, што пчолы у гэтым часе не маглі насіць мёду, а калі пачалася непагода дык і зноў немагчыма было ім сабраць пэўную колькасьць мёду, хацяб толькі сабе. Такім пчолам мусіў гаспадар даць толькі мёду, колькі трэба было на зімовы час.

І так у нас цяжкі быў сэзон, як для пчол, так і для пчаляроў.

У. Казак.



# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Гр. І. Балашка-Бігуну.** За вострыя словы Вашых лістоў ня маем да Вас жалю, бо яны сьведчаць аб тым, як горача жадаеце Вы прыдбаць веду. Але ці Вы падумалі, што спыненьне выхаду „Б. Борці" на такі даўгі час ня было бяз пэўных незалежных ад нас прычын? Ня ўсе падпішчыкі гэтак акуратна, як Вы падпіску прысылалі, ня ўсе пчаляры лічылі сваім абавязкам падтрымаць істнаваньне „Б. Борці". Наша часапіс ніякіх дапамогаў нёскуль не атрымлівае, апіраецца толькі на падпіску калі апошняя перарываецца, „Борць" істнаваць ня можа. Увесь склад рэдакцыі і адміністрацыі працуе ганарова, але друк і паперу аплаціць трэба. Думаем, што, зразумеўшы, вініць нас ня будзеце. Што тычыцца прэміі то ўсім, каму належаліся, былі высланы. Шкада, што адразу вясной Вы нам не напісалі — выслалі-б паўторна. Атрымаўшы сьвежае насеньне вышлем.

**Н, Даманскаму.** Пробны нумар вышлем.

**Р. Кавальчуку.** З прычын ад нас незалежных „Б. Борць" ад м. траўня не выходзіла. Цэннік пчалярскіх прыладаў будзе разасланы нашым падпішчыкам у пачатку новага сэзону.

**А. Трыпусу.** Пробны нумар Вам і па пададзенаму адрэсу высылаем. Чакаем падпіскі. Камплект папярэдніх нумараў за 1935 г. можам выслаць па атрыманьні 2 зл. 50 гр.

**Т. Гаврылюку.** Пробны нумар высылаем. У справе пчалярскіх падручнікаў радзім зьвярнуцца па адрэсу: Lwów Rynek 10. II p. Redakcja „Ukrainski Pasicznyk".

**М. Пракопчык.** „Б. Борць" ад м. траўня па сёняшні дзень не выходзіла.

Цяпер будзем яе выдаваць ізноў акуратна, наскольки нашы падпісчыкі дапамогуць нам матэрыяльна і маральна.

Грошы атрымалі; будуць залічаны на далейшую падпіску.

**Я. Камаеду** Пробны № Вам высылаем. Можаце выпісаць камплект папярэдніх нумароў; будзе каштаваць з перасылкай 2 зл. 50 гр. У папярэдніх № № „Б. Борці" знойдзеце адказ на Вашыя запытаньні ў справе „Т-ва Пчала". Якія маеце зёлкі і ў якой колькасьці? У г. № зьмяшчаем абвестку фірмы, якая купляе насеньне жоўтай акацыі. Радзім туды зьвярнуцца.

**Д-р. Я. Мысліцкі.** Пробны № высылаем. Камплект за 1935 г. вышлем па атрыманьні падпіскі ў суме 2 зл. 50 гр.

**Dr. L. Branowitzer** (Румынія). Пробны № высылаем.

# АБВЕСТКІ



Выдавец - Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.